

ISSN 0132-5957

# Вожык

Часопіс сатыры і гумару

№ 5 (май) 2015

## У нумары:





Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




Міні-кніжка

РАЗДАВИМ ФАШИСТСКУЮ ГАДИНУ

СМЕРТЬ ФАШИЗМУ!

Начав враг-фашист разбой.
Пусть суров и труден бой,
К бою нам не привыкать —
Мы отпор сумеем дать.
И врага с земли сметут
Наши танки и штыки,
По костям его пройдут
Красной армии полки.



70 гадоў таму выйшаў першы нумар часопіса «Вожык»!








Малюнак Паўла ГАРАДЦОВА.



Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.







Малюнкі Міколы ПІРГЕЛЯ.



## СА СВЯТАМ ВЯЛІКАЙ ПЕРАМОГІ!

**1945–2015**

Сёлета мы адзначаем асаблівае для ўсіх нас свята – 9 мая, Дзень Перамогі. 70 гадоў перамогі савецкага народа над фашысцкай Германіяй. Вытокі «Вожыка», як вядома, таксама з грознага 1941-га. Тады ж, у ліпені сорак першага, выйшаў першы нумар газеты-плаката «Раздавім фашысцкую гадзіну», тады ж пяро і аловак, слова і малюнак прыраўняліся да штыка, і пісьменнікі, мастакі, журналісты, аўтары з франтоў і партызанскіх атрадаў сталі па-майстэрску змагацца гэтай зброяй. І – перамаглі!..

Агітплакат выходзіў у розных месцах, з рознай перыядычнасцю, розным тыражом. Але таемнымі, пакручастымі сцежкамі ён даходзіў амаль да кожнага партызанскага атрада, да кожнай акупаванай вёсачкі і быў у найвялікшай цане: па мерках каштоўнасцей каціраваўся нараўне з аўтаматам, кулямётам, толавай шашкай... Даводзіцца толькі здзіўляцца дасканаласці мастацкага афармлення, паліграфічнага выканання, шматколернасці выдання! Кожны выпуск багата ілюстраваўся карыкатурамі В. Букатага, І. Ахрэмчыка, В. Казак, Л. Брадатага, К. Елісеева, Д. Красільнікава і іншых. Янка Купала, Якуб Колас, Кандрат Крапіва, Кузьма Чорны, Пятрусь Броўка, Аркадзь Куляшоў, Пімен Панчанка, Максім Танк, Анатоль Астрэйка, Максім Лужанін – далёка не поўны пералік аўтарскага актыву нашага сатырычнага выдання тых часоў.

Шчыра віншуем усіх ветэранаў, удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, усіх вожыкаўцаў з гэтым вялікім святам! Давайце яшчэ раз перагорнем старонкі агітплаката і згадаем, якой цаной была здабыта наша Перамога...

*P. S. Правапіс і пунктуацыя арыгіналаў захаваны.*



## Плюшкіны

***Жодзіна.*** У «Мёртвых душах» Мікалая Гогаля быў персанаж Плюшкін. Вызначаўся ён скупасцю і вялікай любоўю да назапашвання непатрэбных рэчаў.

Дзіўна, але і ў нашым жыцці таксама можна сустрэць людзей з такой жа прагай. Напрыклад, кіраўнікам аднаго сумеснага мясцовага прадпрыемства было вельмі шкада выкідваць ці ўтылізаваць адыходы першага (найвышэйшага) класа небяспечнасці, таму яны пакідалі іх у сябе на базе. Але толькі да таго часу, пакуль не завітала праверка, якая выявіла семсот штук адпрацаваных ртуцьзмяшчальных люмінесцэнтных трубак, свінцовыя акумулятары...

У выніку кіраўнікі прадпрыемства прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці, ім давядзецца выплаціць штраф у памеры больш за 53 мільёны рублёў. Мяркуем, што пасля такога плюшкіны больш не будуць збіраць падобныя небяспечныя сметнікі.




## Перабольшванне і пераменшванне

***Ліда.*** Нехта заўсёды імкнецца перабольшваць заслугі, а нехта – наадварот, пераменшваць. Часцей за ўсё гэта робіцца для таго, каб каго-небудзь уразіць, зацікавіць і выклікаць захапленне сваёй персонай.

Але дырэктар прыватнага сэрвіснага ўнітарнага прадпрыемства па вытворчасці мэблі хлусіў па больш празаічнай прычыне. Дзеля выгоды ён спецыяльна заніжаў суму выручкі. Такім чынам, за 2013–2014 гады утаіў даход у памеры каля 600 мільёнаў рублёў і не даплаціў падаткаў больш чым на 172 мільёны рублёў.

Вядзецца следства, дырэктару фірмы пагражае да трох гадоў зняволення. Мараль вельмі простая: не трэба ні перабольшваць, ні пераменшваць, а гаварыць праўду.

## Дым у вочы

***Дзяржынскі раён.*** Не атрымалася ў махінатараў, якія займаліся кантрабандай тытунёвых вырабаў, пусціць дым у вочы супрацоўнікам праваахоўных органаў.

Спачатку міліцыянеры затрымалі фуру з беларускімі цыгарэтамі без неабходных дакументаў. А потым «па ланцужку» выйшлі на фірму, што знаходзіцца ў вёсцы Рудня. Там захоўваўся «шэры» тытунь. Усяго ў ходзе расследавання было канфіскавана амаль адзін мільён дзвесце тысяч пачак цыгарэт коштам больш за адзінаццаць мільярдаў семсот мільёнаў рублёў.

Ужо зараз выяўлена дачыненне да незаконных паставак тытунёвых вырабаў трох грамадзян Латвіі і двух беларусаў. Пакуль зразумела толькі адно: колькі ні напускай дыму, а адказнасці не пазбегнуць.

*Па матэрыялах прэс-цэнтра Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь, інфармацыйнага партала tut.by.*



Малюнак Аляксандра ШМІДТА.

---

## За кроў бязвінных

Іхні шлях крывёй заліты,
Дзе ідуць — пылаюць хаты.
Горш няма на свеце катаў,
Як нямецкія бандыты.

Каб іх кроў ракой лілася,
Каб ад іх не стала следу.
Вось што зробілі ў калгасе,
Наляцеўшы, людаеды.

Старшыню совета Янку,
Збіўшы люта, да знямогі,
Прывязалі да двух танкаў,
Адарвалі рукі й ногі.

Гады сем дзядоў звязалі,
Афіцэр спытаў заўзята:
— Каб у момант мне сказалі
Дзе яшчэ ў вас дэпутаты.

А дзяды яму:
— Не можам
Выдаць мы сяброў звяругам…
За адмову танк варожы
Іх стаптаў жалезным брухам.

Пазнішчаў старых. А потым
Афіцэр сказаў салдатам,
Каб салдаты з кулямёта
Білі ўсіх дзяцей і матак.

За чаргой чарга няспынна
Над натоўпам пранеслася…
І лілася кроў бязвінных,
Па зямлі сваёй лілася.

Да пары-ж фашысты горды,
Храбрасць страцілі забойцы,
Як ударылі з абходу
Партызаны-камсамольцы.

Разлічыліся героі
За людскія слёзы, гора.
Пакідаўшы трупы, зброю,
Бег фашыст куды каторы.

Гэты прыклад навучае,
Каб адпор даваць паганым, —
Трэба ўсім, хто сілу мае,
Быць сягоння партызанам.

**Пятрусь Броўка.**

*№ 9, ліпень 1941 г.*

**Міхась МІРАНОВІЧ**

# МІРАНІЗМЫ

## Дэмакратызацыя

Мы чулі голас
Дэмакратаў:
– Далоў
Зацятых партакратаў!
– Дзе зараз
Тыя партакраты?
– Як дзе?
Пайшлі у дэмакраты!..






## Ні «бэ», ні «мэ»

Скаціны шмат
Ў сяльчан жыве.
А возьмем
Цішку-недарэку,
Дык скажам:
У яго хляве –
Ні «бэ», ні «мэ»,
Ні «кукарэку».



## Суседзі і сабакі

Павялося
Так спрадвеку,
Што адзін
Другога тоўк.
Цюцька –
Сябра чалавеку,
А сусед суседу –
Воўк!



## Цяжкасці аграноміі

Вырасціць у нас
Бананы цяжка.
Не паспее
Фінік і фісташка.
Фігу вырасціць
Жаданне маеш?
А як вынік –
Дулю атрымаеш!

*г. Віцебск.*




Малюнак Паўла ГАРАДЦОВА.

## ДЛЯ ФАШИСТСКИХ ГРОМИЛ У НАС ХВАТИТ МОГИЛ!

**За 6 недель войны фашистская Германия потеряла свыше 1,5 миллиона убитых, раненых и взятых в плен немецких солдат. Красной Армией захвачено и уничтожено свыше 6 тысяч немецких танков, захвачено и уничтожено свыше 8 тысяч немецких орудий. Немцы потеряли за 6 недель войны свыше 6000 самолетов.**



Советский танк идет в атаку,
Его преграды не страшат.
И в клочья Гитлера вояки
От пуль, от гусениц летят.



По триста зарыто в могилу,
А пишут: один тут зарыт.
Своей им земли не хватило —
Бандит на бандите лежит.
От самой советской границы
Фашистских холмов миллион:
Лежат в них громилы-убийцы
Фашистско-немецких племен.





# Чорнае пасяджэнне

**Фельетон**



Белавежская пушча. Здаўна знакавыя для гісторыі сходы адбываюцца менавіта тут. Вось і прадстаўнікі Чорнай кнігі вырашылі сабрацца ў пушчы. Расліны і жывёлы, што наносяць значны ўрон эканоміцы, экалогіі і насельніцтву нашай краіны, забрылі ў самы гушчар лесу, далей ад вачэй чалавека і звяр'я.

Уладкаваўшыся на невялікай палянцы, пачалі расказваць пра свае дасягненні, дзяліцца апошнімі навінамі. Але неўзабаве пачуўся голас Каларадскага Жука – старшыні інвазіўных відаў жывёл і раслін Беларусі (жывых арганізмаў, якія з'яўляюцца чужароднымі ў канкрэтным асяроддзі):

– Паважаныя расліны, жывёлы, беспазваночныя і нават рыбы! Прыемна вас бачыць. Дазвольце лічыць нашае пасяджэнне адкрытым. Уступнае слова прадстаўляецца майму намесніку Баршчэўніку Сасноўскаму.

Высокая і раскідзістая расліна павіталася з прысутнымі:

– Добры дзень. Мы сабраліся тут з нагоды стварэння ў Беларусі Чорнай кнігі. У ёй будуць пералічаны ўсе, хто прыйшоў на гэты сход. Дарэчы, сёння сюды завіталі 52 расліны, 30 жывёл, 7 беспазваночных і 3 рыбіны. Але ёсць і яшчэ чужародныя віды, якія, спадзяюся, у хуткім часе далучацца да нас.

З усіх бакоў загучалі радасныя выкрыкі. Баршчэўнік крыху пачакаў і працягнуў:

– Даўно трэба паказаць прадстаўнікам мясцовай флоры і фаўны, што прышлыя віды ўжо знайшлі сваю нішу ў экасістэме краіны. Нам тут падабаецца, і мы не толькі не збіраемся адсюль уцякаць, наша галоўная мэта – працягваць заваёўваць новыя тэрыторыі, разрастацца і квітнець! Бярыце прыклад з мяне. Я ўжо не першы год распаўзаюся не толькі па Беларусі, а нават па ўсёй Еўропе. Змагаюцца са мной, пачынаючы з 2009 года: выкошваюць, выкопваюць, травяць – і хоць бы што! Як рос, так і расту, пакрыху выцясняю рэдкія расліны, ягады і грыбы. А калі людзі спрабуюць знішчыць, то пяку з усяе моцы, каб больш не падыходзілі.

Грымнулі апладысменты, Баршчэўнік пакланіўся і сеў на месца. Зноў пачуўся голас Каларадскага Жука:

– Паслухаў Сасноўскага і маладосць сваю ўспомніў. Калі толькі-толькі з'явіўся на Беларусі, з такім жа запалам распаўсюджваўся. І зараз няма чалавека, які б не ведаў мяне... Мяркую, што ў хуткім часе такую ж папулярнасць заваюе і Сумнік Канадскі. Давайце дадзім яму слова.

Ярка-жоўтая расліна няспешна загаварыла:

Працяг на стар. 4.



Целуется с фашистом
Румынский атаман!
Фашист в то время
чистит
«Приятеля» карман.

Вблизи селения Н. фашистские самолеты после неудачного налета на важный об'ект, сбросили бомбы на стадо коров.

**(Из газет).**

Как заяц, с битвы он бежит
От наших пушек и картечи.
Со злобы он коров громит
И яро в них он бомбы
мечет.



Працяг на стар. 4.

Заканчэнне. Пачатак на стар. 3.

– Баршчэўнік сам распаўсюджваецца. Мяне ж увезлі ў Беларусь, каб упрыгожваць клумбы, участкі... Але я гэтым не задаволіўся, таму неўзабаве адзічэў і зараз актыўна займаю новыя лугі, пашы, выганы. Зразумела, што канкурэнцыя мне не патрэбна, вось і выпускаю ў глебу спецыяльныя інгібітары – атрутныя рэчывы, якія перашкаджаюць нармальна расці іншым прадстаўнікам флоры. Не стрымаюся, пахвалюся: людзі лічаць мяне сапраўдным нашэсцем. Нават па ініцыятыве Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь у рамках выканання праекта Праграмы развіцця ААН і Глабальнага экалагічнага фонду «Біяразнастайнасць» знялі фільм «Внимание! Золотарник!» У ім расказваецца, якую шкоду я прыношу, наколькі хутка магу размнажацца і як са мной змагацца.



Шалёны Агурок не вытрымаў, усхапіўся:

– Можна падумаць, ты адзін такі асаблівы! Расхвальвае сябе, быццам іншыя расліны і жывёлы нічога не робяць. Я пашыраю свае ўладанні штогод, як мяне ні імкнуцца знішчаць. Вось Клён Ясенялісты таксама не марнуе час, у яго настолькі атрутнае апалае лісце, што выцясняе дубравы. І нас такіх шмат!

Ажывіўся і Янотападобны Сабака. Ён ускінуў дагары лапку, просячы даць яму слова.

– Калі ласка, што вы хочаце сказаць? – звярнуўся да яго Каларадскі Жук.

– Паважаныя, я не разумею, чаму вы так радуецеся і ганарыцеся! – узрушана пачаў Янотападобны Сабака. – Добра, пярэчыць не буду, вы ўсе малайцы, што выцясняеце расліны, жывёл, рыб, якія жывуць на тэрыторыі Беларусі ўжо не першае стагоддзе. Але ж людзі ствараюць Чорную кнігу не для таго, каб папесціць нашае самалюбства, а дзеля таго, каб сачыць за папуляцыяй, знішчаць! У іншых краінах на гэта выдзяляюцца вялікія грошы. Напрыклад, у Англіі паляўнічым заплацілі пяць мільёнаў фунтаў стэрлінгаў, каб пазбавіцца ад андатры, якая ўціскала вадзяную палёўку. У выніку, за чатыры гады яе папуляцыя была поўнасцю знішчана. А што датычыцца Беларусі, падлічана: каб ліквідаваць увесь баршчэўнік, спатрэбіцца каля 600 мільярдаў рублёў. Многа, але людзі могуць пайсці на такі крок дзеля захавання мясцовай флоры і фаўны.

– Згодны, ёсць праўда ў тваіх словах, – адгукнуўся на гэты выпад Каларадскі Жук. – Трэба абмазгаваць, як нам сябе паводзіць у такой сітуацыі.

– Як, як? – не сцярпеў расхваляваны Сасноўскі. – Я пасля размоў, што мяне могуць увогуле знішчыць, буду імкнуцца разрастацца ў два разы хутчэй! І нельга губляць ні хвіліны. Таму прапаную ўжо зараз заваёўваць новыя землі, каб людзі не маглі спраўляцца з нашым нашэсцем. Хто за – падыміце галінкі, лапы, хвасты.

Усе дружна падтрымалі Баршчэўніка.

– Калі так, то аб'яўляю чорнае пасяджэнне закрытым, – прамовіў Каларадскі Жук. – Чакаю ўсіх праз год, з дакладамі пра захопленыя тэрыторыі і ў ранейшым складзе, а магчыма, і з кімсьці новым.

Прысутныя пачалі хуценька разыходзіцца. А тым часам адказныя асобы рэдагавалі Чорную кнігу, складалі планы па знішчэнні інвазіўных відаў жывёл і раслін. Яны рабілі ўсё магчымае, каб зберагчы нашу прыроду.

**На пасяджэнні пабывала**
**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**

Заканчэнне. Пачатак на стар. 2.



Если наши соколы летят,
У фашистов черепы трещат.
Не спасает немцев и броня
От советской стали и огня.



Летит разбойник
и бандит,
Пират воздушный —
«мессершмитт».

Но ястребком был
нашим сбит,
И вот пред нами
МУСОРшмитт!

№ 18, август 1941 г.










Малюнкі Андрэя СЛУЦКАГА.

# АНТОСІКІ

«Бяда ад розуму», — заўважыў Грыбаедаў,
І стала гэта ісціна глабальнай.
Магчыма, класік нават і не ведаў:
Для ўсіх часоў выслоўе актуальна.

* * *

Бацькі настаўніка імкнуцца павучаць,
Маўляў, няправільны прыём ужыў ці метад.
Замест таго, каб слухаць і маўчаць,
Калі гаворыць ён пра іхніх дзетак.

* * *

Калі трасе цябе у брычцы,
Не праклінай каня па звычцы.
Тут розуму не трэба многа:
Прычына — дрэнная дарога.

* * *

Ёсць людзі, што заўсёды рады
Чытаць мараль, даваць парады.
Каб іншы раз — наадварот:
Каменьчык ды у свой гарод!

* * *

Не будзе згоды і багацця,
Калі два камандзіры ў хаце.
Наўрад ці ў іх жыццё складзецца,
Сям'я, урэшце, распадзецца.

**Антон АНІСОВІЧ,**
*Дзяржынскі раён,*
*в. Путчына.*









БУДЬ НА ЧЕКУ.
В ТАКИЕ ДНИ
ПОДСЛУШИВАЮТ СТЕНЫ.
НЕДАЛЕКО ОТ БОЛТОВНИ
И СПЛЕТНИ
ДО ИЗМЕНЫ.



Трус, болтун и паникер —
Все они — враги народа.
Вырвем с корнем этот сор,
Эту подлую породу.
У кого длиннющ язык —
Пусть пронижет острый штык!

*№ 25, сентябрь 1941 г.*




Сяброўскі шарж Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

## З 75–годдзем

**ЛІПСКАГА Уладзіміра Сцяпанавіча**, беларускага пісьменніка. Аўтар многіх кніг мастацкай і дакументальнай прозы, выданняў для дзяцей; лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

Ужо шмат гадоў пісьменнік узначальвае часопіс «Вясёлка». Самае непасрэднае дачыненне мае У. Ліпскі і да гумару. Дзякуючы яму Беларусь займела сваю сталіцу гумару – Аўцюкі, а ўсе, хто любіць смяяцца, ахвотна прыязджаюць сюды на ўсебеларускае шматгадовае гумарыстычнае свята, якім кіруе У. Ліпскі.

Жадаем Уладзіміру Сцяпанавічу моцнага здароўя, творчага плёну і вясёлага, бадзёрага настрою!







Малюнкі Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.

## Думкі ўголас

Тое, што адкладваецца на потым, не хочацца рабіць спачатку.

**Ні рыба ні мяса, а сала есці любіць.**

У дурня ўсе дурні разумныя.

**Калі план гарыць, дык работа тлее.**

Без крылаў не паляціш, але хадзіць можна.

**З закрытым ротам лішняга не скажаш.**

Калі заблудзіш у трох соснах, компас не дапаможа.

**Дзе цяпер пень, раней было дрэва.**

Заняць месца пад сонцам прасцей за ўсё на пляжы.

**Той, хто не памірае ад сораму, даўжэй жыве.**

Жыццё праходзіць міма, калі ты не глядзіш навокал.

**Даслаў Барыс КАВАЛЕРЧЫК,**
*г. Гомель.*

## ЗАРА ВЫЗВАЛЕННЯ ЗАЙМАЕЦЦА НАД БЕЛАРУССЮ

Беларусь, родная Савецкая зямля!

Ты зноў чуеш громы ваеннай навальніцы. Зноў садрыгаюцца лясы і прасторы тваіх палёў ад гуду гармат, ад грукату танкаў і рэву самалётаў.

Вялікія бітвы пачаліся і кончацца на табе, беларуская зямля. Але не з цёмнага фашысцкага захаду, а з ясных усходніх далячынь грыміць сёння пераможнае водгулле вайны і плыве ўсё далей і далей на захад, як голас прадвесня, як весць твайго вызвалення.

Не палон і няволя, не чорная ноч пакуты, а радасць волі і яснасць сонечнага дня звіняць у гэтым водгуллі. На захад ідзе Чырвоная Армія, жалезнаю мятлою вымятае грабежніцкія орды ашалелага фашызма.

**Якуб Колас.**

*№ 39, сакавік 1942 г.*







**Мікола ЧАРНЯЎСКІ**

# Саквояж

**Быль**



Часам гляджу па тэлевізары, як выступае кандыдат гістарычных навук, вядомы архівіст Вячаслаў С. і заўсёды згадваю адну гісторыю...

Працуючы ў архіве, ён пісаў кандыдацкую. Тады ў модзе былі саквояжы. Гэта цяпер усе з кейсамі ды дыпламатамі ходзяць, а ў той час... Мецъ партфель – элегантна і прэстыжна, але з тым жа замежным ці айчынным саквояжам было больш зручна. У ім хапала месца і паперам, і кнігам, і харчоваму прыпасу, і нават бутэльцы чаго моцнага. Ад гэтага набору ў саквояжа распірала бакі, ён круглеў, як тыя бычкі на адкорме, але трываў, не паддаваўся гвалту з боку ўладальніка-гаспадара.

Здаралася, разыходзіліся замкі, адляталі ручкі, але гэта не лічылася такой ужо сур'ёзнай шкодай. У майстэрні ім заўсёды знаходзілася належная замена. Нездарма гэтыя саквояжы надта ўпадабалі розныя навукоўцы, каб насіць у іх мноства патрэбнай літаратуры ды папер. Карысталіся імі і начальнікі розных гандлёвых устаноў, загадчыкі прадуктовых баз і складоў, а таксама спецыялісты, бадай, не самага высокага рангу – аўтарамонтнікі, слесары, сантэхнікі. Іх рыштунак, які павінен у любую хвіліну быць пад рукою, звычайная сумка наўрад ці магла змясціць, а тым болей – вытрымаць.

Праўда, не лішне заўважыць, што ў саквояжаў меўся свой сацыяльны статус ці, як сёння кажуць, імідж. Былі саквояжы – гранды: скураныя, дыхтоўныя, нават пазначаныя біркаю вытворцы, і былі шараговыя, меней кідкія, але аднолькава змяшчальныя. З якім саквояжам хадзіў сціплы архіўны супрацоўнік, няхай сабе і патэнцыяльны кандыдат навук, здагадацца няцяжка...

У той дзень Вячаслаў дамовіўся з сябрам, такім жа гісторыкам-архівістам Міхасём Ш., схадзіць у кіно. Перад сеансам вырашыў зазірнуць у Цэнтральную кнігарню: раптам нешта патрэбнае з'явілася? А там быў такі парадак: спачатку пакінь партфель ці саквояж на стале пры ўваходзе, а потым ідзі да паліц з кнігамі.

Вячаслаў паставіў саквояж на столік ды падаўся даследаваць асартымент. Паглядзеў сёе-тое, вярнуўся назад, адшукаў вачамі свой саквояж, узяў яго – ды з кнігарні.

Сустрэўся з сябрам у дзвары кінатэатра. Селі на лаўцы. Вячаслаў саквояж бліжэй падсунуў, замочкам шчоўкнуў:

– Пакажу табе, Міша, колькі я напісаў кандыдацкай.

Расчыніў – і холад працяў з галавы да ног: той быў поўны нейкага пакулля, шрубак, галовак кранаў! Тросік ляжаў, пласкагубцы, вялізны ключ...

Сябрук таксама недаўменна вочы вытарашчыў:

Працяг на стар. 8.



**ПРАЗ ЛЯСЫ, БАЛАТЫ І ПАЛЯНЫ**

(Партызанская песня)

Праз лясы, балаты і паляны
На засаду ішлі партызаны,
Дзе высокія сосны ў бары.
Прысягалі, кляліся героі —
З рук не выпусціць вострае зброі
Пакуль помста ў сэрцы гарыць.
Ёсць у кожнага раны і страты,
Ў грудзях тлее жар спаленай хаты,
Маткі чуецца скарга і крык;
Ёсць ва ўсіх яшчэ — воля, радзіма,
Апавітая заравам, дымам
І высокія сосны ў бары!

Быццам гады паўзуць па дарозе
За фашысцкім атрадам абозы,
Толькі рэха гудзіць у бары.
— Гэй, таварыш, настаў час расплаты:
На фашыстаў абрушым гранаты,
Партызанскі агонь, тапары!
Каб ніхто з лютых катаў ніколі
Не таптаў больш зямлі нашай, волі,
Не пабачыў світання зары;
І каб слава пра нас баявая
Вечна сонцам пылала над краем
І шумела як сосны ў бары.

Максім Танк.

*№ 48, чэрвень 1942 г.*

СТОЙКАСЦЬ – ЗАЛОГ ПЕРАМОГІ!



– Глянь, Сяргей, колькі тут фрыцаў палегла.
– Гэта таму, брат, што мы выстаялі.

*№ 65, кастрычнік 1942 г.*

Заканчэнне. Пачатак на стар. 7.

— Адкуль усё гэта ў цябе? Дзе кандыдацкая?

Кінуўся з усіх ног Вячаслаў назад у кнігарню. Прымчаўся, а там нейкі дзяцюк у спяцоўцы лямантуе:

— Дзе мой сакваяж? Хто мне падсунуў свой, напханы паперамі? Я ж сантэхнік, без інструменту як без рук! Дзе цяпер шукаць гэтага гада?

Падскочыў Вячаслаў да яго, пхне ў рукі чужы сакваяж, прабачэння просіць. А сантэхнік ніяк не можа супакоіцца, ледзь не за грудкі хапае гісторыка. Не разумее, што ўсё памылкова выйшла: абодва сакваяжы аднаго колеру, карычневыя. Каб супыніць канфлікт, вучоны нават адшкадаваў яму тры рублі на віно. Так сказаць, плата за маральны ўрон.

А кандыдацкую Вячаслаў С. абараніў. Вось толькі цяпер трэба клапаціцца, каб яна зноў не згубілася, але ўжо — у неабсяжным архіўным моры.





Малюнак Аляксандра ШМІДТА.




ВАДАСПАД — адключэнне вады.

ЗЕМЛЯРЫЙКА — рыдлёўка.

КАЗЕМАТ — лаянка на казу.

КАТАФОТ — фотаздымак ката.

МАЛАДЗІК — малады дзік.

МАНІЦЬ — лічыць грошы.

МЯДЗВЕДЗЬ — шукальнік каляровых металаў (медзі).

МЯНТАШКА — балбатлівая жанчына.

НЕПАКОЙ — забарона ўваходзіць у пакой.

ПАНТЫФІК — пан, хворы на тыф.

САМАГОН — марафонец.

**Даслала Ганна ЧАРНУШЭВІЧ,**
*Слуцкі раён,*
*в. Замосце.*

АД РЭДАКЦЫІ

*Каб немцы не наводзілі цень на пляцень — чорную фашысцкую ноч не выдавалі за ясны дзень, круглых ідыётаў — пень у пень, усякую крымінальную дрэнь і жывёлу нізкапробную за расу чыстакроўную;*

*каб свае разбойніцкія орды, са звярынымі мордамі не называлі «зольдатэн орднунг» — салдатамі парадка;*

*каб ірады праклятыя, якія прынеслі смерць і пажары і пасадзілі абшарнікаў сялянам на карак, не хрыпелі — «мі вам даль новы парадак»;*

*каб па свайму фашысцкаму разуменню яны не давалі людаедству тлумачэнне,*

*выпушчана вось гэтая*

*«МАЛАЯ ПАРТЫЗАНСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ».*

## Малая партызанская энцыклапедыя

**АМАНАЛ.** (Узрыўчатая матэрыя). Гітлераўскі «новы парадак» у Еўропе. Узрываецца пры моцнай дэтанацыі з Усходняга фронта.

**БЕЛЫ КОНЬ** — чыстакроўны рысак. Доўга адкармліваўся ў берлінскай канюшні для трыумфальнага ўезду Гітлера ў Маскву. З'ездзен немцамі ў час зімовай кампаніі 1941 года.





Вернісаж



# Пятру КОЗІЧУ — 65!

Рэдакцыя і рэдкалегія часопіса «Вожык» шчыра віншуюць вядомага мастака-карыкатурыста Пятра Серафімавіча КОЗІЧА з 65-годдзем і жадаюць моцнага здароўя, добрай памяці, надзейных сяброў ды творчага плёну на доўгія гады!








**ВІЛЫ** — сельскагаспадарчы інвентар. У час вайны служаць для размовы беларусаў з немцамі. Гэтую мову немцы добра разумеюць.

**ГАЎЛЯЙТАР** — гаў... гаў... гаў... ляй... ляй... ляй... — парода фашысцкая, масць карычневая, клічка — Кубэ.



Гэр фон Кубэ

**ДЫМ** — тое-ж, што і патрыятычны дух нямецкай арміі.

**ЁЛКІ**. Што такое ёлкі, гаворыцца ў вершы:

Ёлкі, палкі, лес густы,
Немцу сняцца скрозь кусты.
Што ні купіна, ні груд
Сцеражэ яго капут.

**ЖЫЦЦЁВЫЯ ПРАСТОРЫ** — нямецкія могілкі на беларускай зямлі.

**ЗАСАДА** — месца, дзе партызаны б'юць немцаў спераду і ззаду.

**ІДЫЁТ** — у старадаўніх грэкаў — недаразвіты чалавек, які не ўдзельнічае ў грамадскіх справах. У Германіі — рэйхсканцлер.

**КАТАФАЛК** — будучая трыумфальная калясніца гітлераўскай дзяржавы.



Працяг на стар. 10–11.

## Мімаходзь

Сквапны плаціць двойчы, а занадта сквапны – тройчы.

**Ніколі не шукай учарашні дзень – у пошуку згубіш сённяшні.**

Атрымаў траўму: нечакана звалілася вялікае шчасце.

**Прыгожая жанчына з кепскім зрокам больш не страляе вачыма, бо ўжо тры разы прамазала і два разы параніла саму сябе...**

**Даслаў Мікалай НАВАРЫЧ,** *г. Мінск.*







Малюнкі Алега ПАПОВА.

## Карэктарскія агрэхі

Абяцалі шэсць траншэй крэдыту.

Вадзіцель кабылы не справіўся з кіраваннем.

Два скачкі з парашута.

Здымкі дзяўчат з тварамі ў сонечных акулярах і купальніках.

Канчаючы пачаткам жалезнага веку.

Каровы былі затрыманы і перададзены на адказнае захоўванне.

Наша задача – перакінуць на свой бок падрастаючае пакаленне.

Сабрана каля 100 кг кадравых шышак.

Стомлены аўтар матэрыялу спіць у правым ніжнім куце фота *(подпіс да фотаздымка)*.

Хрысціяне-бабтысты.

**Уважліва чытаў перыёдыку Дзмітрый РЫМША.**

---

**ЛЫЧ** — што такое лыч, можна бачыць на малюнку.



**МАСКІРОЎКА.**




**НЯМЕЦКІЯ ПАДАТКІ** — здзіранне скуры з галавы да пяткі.

**ОСТЛАНД** — усходняя краіна, якая ад партызанскіх гасцінцаў становіцца магілай для заходніх чужынцаў.

**ПАРТЫЗАНЫ.** — Дзе партызаны? — заўсёды пытаюцца немцы. Можам ім выдаць сакрэт:
Вось яны тут па ўсіх гарадах і вёсках, лясах і дарогах Беларусі.

**РУЖЖО** — неабходная прылада беларуса, якая бароніць яго ад холаду, голаду і нямецкай заразы.

**СІВЫ МЕРЫН** — адзін з відных супрацоўнікаў германскага інформбюро.

**ТЭЛЕСКОП** — прылада для разглядвання вельмі далёкіх прадметаў. Гітлеру нават праз тэлескоп не відна перамога.



**«УРА!»** З гэтым словам рускія ідуць у атаку. Гэтае-ж








**Дзмітрый ПЯТРОВІЧ**

## Слованарыхтоўка



*Дзе я вершы пагубляла:*
*Ці ў размовах, ці ў гульні?*
*Мне на рыфмы часу мала –*
*Мітуслівасць дзень пры дні.*

*Але я хаджу, шукаю*
*І збіраю па радку:*
*Слова – з поля, слова – з гаю;*
*То з усмешак, то з пакут.*

*Вольга ШПАКЕВІЧ*

Хтосьці едзе ў лес па дровы.
Я – услед, але па словы.
Слова – з поля, слова – з гаю...
Мех патрохуназбіраю.

Ды без рыфмы што рабіць?
Мо, паэту пазваніць?
Хай пазычыць словаў-пазлаў,
Каб у прозе я не ўвязла...

## Смага

*На ганак выйду,*
*З капяжу нап'юся...*
*Лідзія ГАРДЫНЕЦ*

Сок бярозы я піла вясною.
А ляснік, які ішоў праз бор,
Мне казаў не злоўжываць напоем –
Там цяжкіх металаў перабор.
Калі дойме смага, то нап'юся
Ўсмак расы, як белага віна.
Я канцэрагенаў не баюся,
Траў дадам у свой напой спаўна.
Мята, зверабой, палын, рамонак,
Жменю васілёчкаў сыпану.
Я асенняй раніцай спрасонку
Зёлак гэтых пацягнуць люблю.
Снег зімой ляжыць на хмарачосах,
Ды вясна ідзе ў атаку зноў.
Многа я не папрашу у лёсу –
Наталіць бы смагу з капяжоў!



**Ала КЛЕМЯНОК,**
*г. Смаргонь.*

## Святлісты лёс



*Хлапчук, святлісты і спакойны...*
* * *
*Самы святлісты ўспамін...*
* * *
*Расія, твой святлісты геній...*
* * *
*Вачэй святлістыя паляны...*
* * *
*Ніколі не забыць святлістых дзён...*
* * *
*Святлісты разліў зараніц...*
* * *
*Святлістасць звонкую прыносіць...*

*Міхась ПАЗНЯКОЎ*

Што са мною зрабіла святлістасць,
Дарагія сябры вы мае:
Замяніла і вечнасць, і існасць,
Мне яе, далібог, нестае.
У святлістыя веру паляны,
Берагу я святлісты ўспамін.
Ад святлістасці той нібы п'яны –
Ад святлістых жыццёвых хвілін.
Канапелька ўсхваляе рабіны,
Я ж – святлістасць, бо я – Пазнякоў.
Хай святлістасцю ззяюць галіны
Тых рабін, дзе я сцежкай ішоў!

**Аляксандр МАТОШКА,**
*Расонскі раён,*
*в. Янкавічы.*

---

слова суправаджае немцаў на той свет.

**ФРАУ** — да вайны замужняя жанчына ў Германіі, зараз фрау — удава. Напрыклад: фрау Клейст — удава Клейст, фрау Рэйхенау — удава Рэйхенау і г. д.

**ХАЙЛЬ** — прывітальны вокліч, якім абменьваюцца пры сустрэчы хайлы з хайлам.

**ЦЫТАДЭЛЬ** — непрыступная для ворага цвярдыня, крэпасць, аплот. Напрыклад: Масква, Ленінград, Сталінград.

**ЧУМА** — карычневая зараза. Бацылы маюць форму свастыкі. Знішчаецца савецкім народам усімі сродкамі.

**ШВАЙН** — калі на чатырох нагах — свіння, калі на двух — фашыст.

**ЭРЗАЦ**. У Германіі атрымалі шырокае ўжыванне замяніцелі.

Абутак там робяць са шкла, вопратку з пацярухі, хлеб, кілбасу, нават мяса, з апілак. Праўду замяняюць там хлуснёй, чалавека — бессардэчна тупой і злой




Працяг на стар. 12.




Андрэй СІДАРЭЙКА

# Цывілізацыя

## Фантасмагорыя

Аднойчы ў горадзе N. пачалі адбывацца дзівосныя здарэнні. Спачатку ва ўсіх дамах знік інтэрнэт. Людзі, якія і дня не маглі пражыць без гэтай вынаходкі чалавецтва, не ведалі, што рабіць. Раней яны прачыналіся, снедалі, уключалі камп'ютар... Як быць цяпер?

Неўзабаве людзі ўсё ж сталі выходзіць з кватэр. Адразу яны адчувалі сябе няўтульна. Дарослыя часта пазіралі на гадзіннікі, бо прывыклі глядзець у гэты час на сайтах хакей і футбол, бокс і ралі, ток-шоу і серыялы. Дзеці пыталіся, калі ім уключаць новую серыю мультфільма. Юнакі і дзяўчаты сумавалі. Да гэтага яны свабодна размаўлялі адзін з адным па скайпе ці ў сацыяльных сетках, хоць і жылі побач, ацэньвалі фота, пасылалі смайлікі...

Але пасля ўсё наладзілася. Дзеці весяліліся на каруселях, дарослыя загаралі на пляжы, моладзь знаёмілася ўжывую.

Так працягвалася нядоўга. У горадзе N. зноў з'явіўся інтэрнэт. Усе кінуліся ў кватэры. Вуліцы апусцелі, людзі сядзелі перад камп'ютарамі і радаваліся: да іх вярнулася цывілізацыя! Больш яна не адступіла ад чалавецтва...

*Рэчыцкі раён,*
*в. Каравацічы.*




Малюнак Алега КАРПОВІЧА.




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

---

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 8.*

жывёлай, у якой у галаве замест мазгоў — расавая дрэнь, сумленне яго замяняюць рукі грабіцеля і забойцы.

**ЮНАКІ** — нашы браты — югаслаўскія партызаны, якія нясуць смерць фашыстам.

**ЯМА.** Руская прымаўка кажа: «Не капай другому яму, сам у яе ўвалішся». Гэта датычыцца нямецкіх акупантаў.

*№ 71—72, снежань 1942 г.*

У складанні малой партызанскай энцыклапедыі прымалі ўдзел: **Я. Колас, К. Крапіва, М. Танк, А. Астрэйка, М. Чаускі, К. Губарэвіч, Г. Вальк, А. Бажэнаў, В. Козак.**



## Дагаварыліся

Перад Гімлерам стаіць толькі што прыбыўшы па тэрміноваму выкліку з Ленінградскага фронта генерал фон-Драпке. Выгляд у яго змардаваны. Ён кульгае не толькі на нагі, але і на вушы. І на пытанні, якія задае яму Гімлер, глухі генерал адказвае неўпапад.

ГІМЛЕР: — Далажыце, генерал, як вы дапусцілі прарыў блакады Ленінграда.

ДРАПКЕ: — Так точна, ваша светласць, рускія білі спераду і ззаду.

ГІМЛЕР: — Вы толкам раскажыце, чорт пабяры, якое зараз пад Ленінградам становішча?

ДРАПКЕ: — Так точна, страшней «Лёдавага пабоішча».

ГІМЛЕР: — А куды варты вашы траншэі і доты?






Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА,
тэма Андрэя СІДАРЭЙКІ.

## Анекдоты

Гаспадар кватэры, у якой студэнт здымае пакой, раззлавана кажа:

– Я вас не выпушчу адсюль, пакуль не вернеце грошы!

Студэнт:

– Вялікі дзякуй! Нарэшце буду забяспечаны жыллём надоўга...

☺ ☺ ☺

Нованароджаныя двайняты з сям'і кітайскіх праграмістаў атрымалі імёны Вай і Фай.

☺ ☺ ☺

Прафесар пытаецца ў студэнткі:

– Не магу зразумець – гэта ў вас кароткая спадніца або шырокі пояс?

☺ ☺ ☺

Недалёкая будучыня. Размова паміж дзецьмі:

– А ў якім чаце твае бацькі пазнаёміліся?

☺ ☺ ☺

Размова выкладчыка са студэнтамі перад іспытам.

– Перш чым пачаць, я гатовы выслухаць вашыя пытанні.

– Скажыце, а які прадмет мы сёння здаём?

☺ ☺ ☺

– Вочы пачырванелыя, апухлыя, святлабоязь і слёзатачывасць...

– Высновы кан'юнктывіт?

– Безлімітны інтэрнэт!

---

ДРАПКЕ: — Асмелюся далажыць, што там не засталося ніводнай нашай роты.

ГІМЛЕР: — Я пытаю, куды варты вашы доты і траншэі!

ДРАПКЕ: — Так точна! Там надавалі нам па шыі.

ГІМЛЕР: — Чаму вы, донэр ветэр, не змаглі да апошняга трымацца?

ДРАПКЕ: — Уцалеўшыя салдаты паспяшылі здацца.

ГІМЛЕР: — Што ты мелеш, глухі ідыёт?

ДРАПКЕ: — Так точна! Трашчыць наш фронт.

ГІМЛЕР (у шаленстве): — За такія справы мала пасадзіць за краты!

ДРАПКЕ: — Страты? Ваша светласць, цяжка падлічыць страты.



*№ 78, люты 1943 г.*




*№ 77, люты 1943 г.*

# Навіны з МУС: матай на вус…



## Гастролі скончыліся

**Выяўлена група злодзеяў, на рахунку якіх больш за дваццаць крадзяжоў маёмасці з аўтамабіляў у Гродзенскай і Брэсцкай абласцях.**

Сумеснымі намаганнямі аператыўнікаў крымінальнага вышуку Упраўлення ўнутраных спраў Гродзенскага аблвыканкама, Навагрудскага, Слонімскага і Баранавіцкага райаддзелаў міліцыі затрыманы злачынцы-гастралёры, якія кралі з чужых машын магнітолы, відэарэгістратары, навігатары, розныя інструменты. За адну ноч яны маглі абчысціць некалькі аўтамабіляў.

Схапілі злодзеяў на гарачым, калі тыя спрабавалі прадаць накрадзенае. Вядзецца следства. Павандраваць па гарадах нашай краіны ў правапарушальнікаў яшчэ доўга не атрымаецца.



## Даскакаўся…

**Узбуджана крымінальная справа ў дачыненні мінчаніна, які скакаў праз Вечны агонь у сталіцы.**

Малады чалавек, выпіўшы лішку, не знайшоў ніякага іншага занятку, як распрануцца па пояс і пачаць бегаць, скакаць вакол Вечнага агню на плошчы Перамогі. Калі да яго падышлі міліцыянеры, ён апраўдваўся тым, што моцна змерз і хацеў сагрэцца.

Такія паводзіны расцэньваюцца як злоснае хуліганства. Мінчаніну, які раней быў асуджаны па гэтым артыкуле, пагражае да шасці гадоў зняволення. Адным словам, даскакаўся…



## «Робін Гуд»

**26-гадовы хлопец украў у Наваполацку з кіёска 400 латарэйных білетаў і раздаў іх людзям на вуліцы.**

Нецвярозы жыхар Расон залез у кіёск РУП «Беларускія латарэі» ў пошуках грошай, а знайшоў толькі білеты. Ён падумаў, што калі самому не пашанцавала са «скарбам», дык хай хоць іншыя схопяць удачу за хвост. І падарыў «латарэйкі» прахожым.

Шкада, але гэтыя ўчынак не ацанілі ў міліцыі. «Робін Гуд» можа памяняць Шэрвудскі лес на турму ажно на чатыры гады.

*Па матэрыялах Упраўлення інфармацыі і грамадскіх сувязей Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, інфармацыйнага партала tut.by.*

---

*КАРНІКІ Ў ЛЕСЕ*



— Ты бачыш партызан?
— Не, бачу я толькі магілы нашых салдат папярэдняга карнага атрада.
— Ну, то хутчэй злазь, уцякаць трэба.

*№ 96, ліпень 1943 г.*

## КОМСАМОЛЬСКІ БІЛЕТ

Цвёрда трымаўся юнак на дапросе,
Тоячы словы і думкі свае.
Немец-жандарм дакурыў папяросу
І камсамольскі білет аддае.

— Вось і білет твой, — сказаў ён ласкава, —
І ад яго на вачах у людзей
Ты адцурайся; выгодная справа:
Жыць застанешся — жыццё даражэй.

Што ў ім карыснага? Кніжка, не болей.
Кніжку спалі, і размовам канец!
— Не, не спалю! — адказаў комсамолец,
— Хай лепей сэрца мне спаліць свінец!

— Ты не згаджаешся?
Вельмі шкадую.
Кінь свой білет у палонку тады.
— Не, я не кіну ў ваду ледзяную,
Сам лепш зайдуся ад лютай вады.

— Добра, хай будзе па-твойму. —
На гэтым
Доўгі і нудны спыніўся дапрос.
І юнака з комсамольскім білетам
Босага гоняць на люты мароз.

Там ён, абліты вадой ледзяною,
К сэрцу рукою білет прыціскаў,
Быццам білет пад сцюдзёнай вадою
Сэрцу юнацкаму стыць не даваў.




# Ведаеш і сам

Стаяў ля гастранома раз Сямён,
Сцяпана-дружбака убачыў ён.
– Чаго сумуеш, Сёма дарагі?
Пайшлі набудзем сродак ад тугі.
– Няма за што купляць мне
тыя «лекі»:
Забрала жонка грошы да капейкі.
Пра мой гастрыт Марыля
ўсё клапоціцца...
Папраўдзе, нават і глядзець
не хочацца.
– На жонку, сябар мой,
ці на гарэлку? –
Не вытрымаў ды запытаў Сцяпан.
– Скажу табе я гэтак, даражэнькі:
Адказ мой добра ведаеш і сам.

**Ірына КАРАЧУН,**
*г. Баранавічы.*

## «МЯККАЕ» ВЫХАВАННЕ

Бацька Васю гульняў розных
Накупляў на кемлівасць.
«Развівай, мой сынку, розум», –
Раіў ён даверліва.

А матуля – мяккіх цацак:
Тыграў, слонікаў сынку.
З імі ён любіў важдацца,
Перад сном клаў пад шчаку.

Калі школьнікам стаў Вася,
У абдымку з зайцам спаў.
Ён вучыцца не стараўся,
Матэматыкам не стаў.

Як падрос, дык ціхай сапай
Думка выспела сама:
Лепшай цацкі, чым канапа,
Сярод мяккіх і няма!

Ў Васіля да працы сэрца,
Скажам шчыра, не ляжыць.
Ля бацькоў дагэтуль трэцца,
Бо прывык ён «мякка» жыць...

**Ядвіга ДОЎНАР,**
*г. Дзяржынск.*




Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА,
тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.

## Індык-хвалько



Па двары індык гуляе,
Хвост, як пава, распускае.
Кажа ўсім на зайздрасць ён:
– Хвост мой – нібы парасон.
Ім я вельмі даражу,
Бо ратуе ад дажджу.
Толькі лівень распачаўся –
Наш індык у хлеў схаваўся.
– Гэту прыгажосць, – крычыць, –
Лепей мне паберагчы!

**Мікола САЛАЎЦОЎ,**
*г. Чавусы.*

---

Так і стаяў, смеючыся над катам,
Доўга па целу сцякала вада;
Так і застаўся стаяць каля хаты,
Быццам з чысцюткага літы ільда.

Так і стаіць, як жывы, перад намі,
Так і стаіць, прыціскае білет,
І не развітваецца з сябрамі,
І прастаіць яшчэ тысячы лет.

Ды не карой ледзяною пакрыты,
Ды не абліты вадой ледзяной, —
Выліты з бронзы і сонцам абліты
Будзе ён вечна стаяць над зямлёй.

**Аркадзь КУЛЯШОЎ.**
*№ 110, лістапад 1943 г.*

**На Арлоўска-Курскім і Белгародскім напрамках...**




– Для выканання задачы я вам даю гадзіну часу.
– Пастараемся ўкласціся!




...Уклаліся...

*№ 96, ліпень 1943 г.*




## Пасябраваць з гумарам ніколі не позна!



*Многія вожыкаўскія аўтары ўжо ў пачатку сваёй літаратурнай дзейнасці звярталіся да жанраў сатыры і гумару, для некаторых яны сталі самымі любімымі і прыярытэтнымі. Аднак ёсць і іншая катэгорыя мастакоў слова. Гэта людзі, якія ў жыцці любяць і ўмеюць жартаваць, а ў творчасці закранаюць сур'ёзныя тэмы. І ўсё ж адметнае гумарыстычнае светабачанне з цягам часу падштурхоўвае іх да напісання адпаведных твораў. Менавіта з такой кагорты сённяшняя вожыкаўская дэбютантка – пісьменніца Аліна Антонаўна Легастаева.*

*Выступаць у друку з вершамі будучы член Саюза пісьменнікаў Беларусі пачала ў Хабараўскім краі (разам з мужам, афіцэрам чыгуначных войск, яна ўдзельнічала ў будаўніцтве БАМа). Першая публікацыя з'явілася ў вядомым на той час часопісе «Далёкі Усход». А родам Аліна Антонаўна з вёскі Верацеі Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыўшы Віцебскі педагагічны інстытут па спецыяльнасці «Хімія і біялогія», маладая настаўніца працавала на Ашмяншчыне. Праўда, пасля замужжа доўгі час жыла ў Літве, але ў 1992 годзе вярнулася ў Беларусь.*

*На радзіме Аліна Легастаева друкавалася ў лагойскай раённай газеце*

**Аліна ЛЕГАСТАЕВА**

## МІНІЯЦЮРЫ

### Зайздрасць

Чалавека зайздрасць з'ядала –
І знішчаў той патроху сябе.
Так і грызлі абое, і рвалі,
Пакуль зубы не выпалі ўсе.

### Дабро і зло

Паверылі, што слова – серабро,
І дамагліся золатам маўчання.
Таму у золаце і раз'язджае зло,
Ну, а дабро – у зале для чакання.

### Коды і выгоды

Адгарадзіліся межамі,
Абзавяліся замкамі.
Катэджы паўсталі вежамі,
Коды – вартаўнікамі.

Толькі няшмат выгоды
З дбалых вартаўнікоў.

---

**Партызанскі атрад «Жэлезняк» (Вілейская вобласць) зрабіў паспяховы налёт на нямецкі гарнізон у вялікім населёным пункце.**

**Партызаны знішчылі 210 салдат і афіцэраў ворага і разграмілі ўправы паліцыі і жандармерыі. Захоплена ўзбраенне і два склады з харчаваннем.**




Вясна. Выстаўляецца не першая рама.

*№ 84, красавік 1943 г.*

Партызанскі рух на Беларусі шырыцца, карныя экспедыцыі нямецкім акупантам не дапамагаюць і яны пускаюцца на правакацыі. Гітлераўскія разбойнікі заклікаюць партызан выйсці з лясоў і зложыць зброю, за гэта яны абяцаюць партызанам поўнае памілаванне. Партызаны адказваюць на правакацыю фашыстаў яшчэ мацнейшымі ўдарамі.



*«Родны край», рэспубліканскіх часопісах «Беларуская думка», «Маладосць», «Полымя». Выйшлі зборнікі лірыкі.*

*Аліна Антонаўна прызнаецца, што з «Вожыкам» сябруе даўно, з задавальненнем чытае творы многіх нашых аўтараў, асабліва – У. Ермалаева, А. Зэкава, П. Саковіча. Натхніўшыся прыкладам майстроў гумарыстычнага жанру, вырашыла паспрабаваць на гэтай ніве і свае здольнасці. «Жыццё – гэта не толькі лірыка і драма, гэта яшчэ і жарт, камедыя, гульня, – адзначае пісьменніца. – Наколькі ўдала мною адлюстраваны гэтыя бакі нашай паўсядзённасці, меркаваць вам, паважаныя чытачы». Што ж, найлепшай ацэнкай паслужаць вашыя ўсмешкі, а ў тым, што яны з'явяцца, рэдакцыя сумненняў не мае.*

Мы ўдасканальваем коды,
А злодзей – адмычкі замкоў.

## Цень

«Я – прыгожы і свабодны!» –
Думаў цень у дзень пагодны.
Ведаць не хацеў, упарты,
Што ўсе цені – сонца жарты.

**Віталь ЖУРАЎСКІ**

# Абмен

## Гумарэска



На дзень нараджэння дзеці зрабілі мне цудоўны падарунак – новы сотавы тэлефон. Было вельмі прыемна. Але ў той жа час я са шкадаваннем паглядзеў на стары апарат, які служыў мне верай і праўдай шмат гадоў. Што з ім рабіць? Вырашыў на што-небудзь абмяняць. А раптам некаму спатрэбіцца?..

Даў аб'яву: мяняю мабільны тэлефон на веласіпед. І што вы думаеце? Знайшоўся дзівак, у якога было два ровары і ніводнага сотавага. Так у мяне з'явіўся двухколавы сябра.

«Гэта, канешне, карысна для здароўя, але ездзіць на веласіпедзе ўсё ж не прэстыжна», – вырашыў я і неўзабаве выменяў яго на скутар.

Далей, як кажуць, пайшло-паехала! Скутар я памяняў на стары пашарпаны матацыкл. Адрамантаваў яго, пафарбаваў у бліскучы чорны колер і... абмяняў на аўтамабіль! Шкада толькі, што без колаў і руля. Але такой бяды! Купіў колы, прымацаваў новы скураны руль і зноў даў аб'яву.

На гэты раз я стаў гаспадаром новай невялічкай дачы. Знаходзілася яна ў маляўнічым месцы, якое хуткаператварылася ў зону элітнай забудовы. Праз год я лёгка памяняў гэтую дачу на кватэру.

Цяпер планую абмяняць яе на катэдж. Можа, ёсць жадаючыя?



*г. Жодзіна.*



– Мілыя партызаны. Мы ведаем, што вы добрыя людзі і прыяцелі, вы проста заблудзілі і выпадкова трапілі ў лес. Выйдзіце з лесу, мы вам нічога не зробім.



Партызаны пачулі голас фашысцкага «дабрадзея» і выйшлі з лесу. І... сапраўды ён ім нічога не зрабіў.

*№ 94, чэрвень 1943 г.*






Малюнак Аляксандра ПЯТРОВА.

## Калі сніцца...



БУКВАР – выклікаюць у школу.
ДУЛЯ З МАКАМ – згубіш прэмію.
КРАПІВА – сварка з суседкай.
МУРАШКІ – чакай гасцей.
МАЛАНКА – нечаканы візіт цешчы.
ГРОМ – паўторны візіт цешчы.
РЭПРАДУКТАР – перапалка з начальніцай.
ХМАРА – лепш усю палучку аддаць жонцы.

**Патлумачыў Мікалай НАВАРЫЧ,**
*г. Мінск.*

**Ніна ГАЛІНОЎСКАЯ**

## Сакрэт багацця

Маю дачу, катэдж і «Таёту»,
Часта езджу з сям'ёй за мяжу...
Пра даходы спытаць вам ахвота?
Я на гэта адкрыта скажу:
Ўсё бяру, калі дрэнна ляжыць,
На зарплату адну не пражыць.
Гэта праўда, зусім не падман,
Мой дыягназ такі: «клептаман».
У хваробы вялікая сіла –
Яе вылечыць толькі магіла...





Малюнак Аляксандра ЦІХАНАВА.

### Два кальцы — адзін канец

Малюнак Г. Валька.



ГІТЛЕР: – Пасля таго кальца ці не пара мне падумаць пра гэта?

*№ 121, люты 1944 г.*

### АДНОЛЬКАВЫ ЛЁС

У Балтыйскім моры наносіць ворагу магутныя ўдары совецкі крэйсер «Мінск».



**Фрыц**: – Пасля таго, як мой брат загінуў у Беларусі, я пакляўся, што не паеду туды. Але, відаць, так ужо суджана мне – загінуць пад Мінскам.

*Малюнак* Г. Валька.

*№ 119, люты 1944 г.*







*РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» прапануе*

## «Мару стаць я мастаком»

Гэта першы (мабыць, не толькі ў беларускай літаратуры) вянок вянкоў санетаў, адрасаваны дзецям. Ды і тэматычна ён таксама незвычайны. Соф'я Шах выдатна перадае паэтычную сутнасць хлопчыка, які далучаецца да таямнічага свету выяўленчага мастацтва, марачы стаць мастаком. І робіць ён гэта менавіта на беларускіх рэаліях, знаёмячыся з карцінамі Г. Вашчанкі, Л. Шчамялёва, В. Шаранговіча і іншых вядомых мастакоў Беларусі.

Выданне дапаможа юным чытачам далучыцца да сапраўднага разумення прыгажосці нашага краю, сутнасці мастацтва і чалавечых адносін.

*P. S. Кнігу можна набыць у аддзеле рэалізацыі альбо атрымаць па пошце. Тэлефоны для даведак: 8(017) 288-12-94, 284-79-85.*






**Соф'я ШАХ**

## Мару стаць я мастаком

*Вянок першы*

**1**

Мару стаць я мастаком,
можа, некалі і слынным,
каб увесь наш ведаў дом:
маляваць магу карціны.
Каб дзядуля Васіліны
(аднакласніцы маёй)
не казаў, што я не схільны
да прафесіі такой.
Што слабы нібыта ў ёй...
Ды мяне й схіляць не трэба,
я схілюся сам сабой, –
што я – нейкі ўжо нязграба?!
Мне ж не раз і тата раіў.
Праўда, напачатку марыў...

**2**

Праўда, напачатку марыў...
Не, скажу вам гэта праз
хвілечку. І як не ўцяміў?!
Пазнаёміцца ж нам час.
Так, завуць мяне Тарас,
ну а прозвішча – Туманаў,
я хаджу ў чацвёрты клас,
у вучобе ўсё нармальна.

*Працяг на стар. 20.*



## ЗНІШЧАЙ БРЫДУ ФАШЫСЦКУЮ

Ужо ляглі пушыстыя
Снягі, бялее гай.
Шукай брыду фашысцкую —
Бязлітасна знішчай!
Гані звяругу з логава,
Выкурвай яго з нор.
Насмерць страляй двуногага,
Страляй яго ва ўпор.
Няхай брыда не грэецца
Пры вогненных кастрах.
Хай трупамі чарнеецца
Наўкола на снягах.

Ляглі снягі пушыстыя,
Бялее поле, гай.
Душы брыду фашысцкую,
Жывой не выпускай!

**Арк. ЯЎСЕЕЎ.**

*№ 118, студзень 1944 г.*

*Кароткія жарты*

### Пяты вінаваты

— І што гэта такое? — звярнуўся на бягу адзін Фрыц да другога. — Ад Ленінграда аж да Пскова дабеглі, а рускія ўсё смаляць па пятах. І як мы ні маскіруемся пры адступленні, усюды яны нас убачаць.

— А ведаеш чаму?

— Ну?

— Мы так драпаем, што аж пяты блішчаць: яны нас і дэмаскіруюць.

### Цёплае і халоднае

— Я вас не пазнаю, пане Мюллер, — сказаў адзін берлінец другому. — Вы раней так цёпла адклікаліся пра ўсе мерапрыемствы фюрара...

— Дарагі мой! — адказаў Мюллер. — Хіба вы забыліся, колькі разоў праводзілася ўжо кампанія зімовай дапамогі? Усё цёплае забралі ў нас эсэсаўцы.

*№ 122, люты 1944 г.*

Заканчэнне. Пачатак на стар. 19.

Ну дык вось мая вам тайна:
я дашкольнікам як быў,
запар тры гады аддана
коней цацачных любіў.
Так хацеў стаць ездаком –
ездзіць на кані вярхом...

**3**

Ездзіць на кані вярхом,
і не дзесь, а па арэне,
пад апладысментаў гром –
на жывым кані, канешне.
Ну, цяпер мне трохі смешна
з мары садаўскае той –
як пайшоў у школу – спешна
замяніў яшчэ адной.
Больш цікавай – запасной.
«Тэлік» я глядзецъ аматар,
вось і ўсцешыў свой настрой:
буду – тэлеаператар.
І спяваць бывалі мары,
а яшчэ – тушыць пажары...

**4**

А яшчэ – тушыць пажары –
ў класе марыў у другім...
На паветраным і шары
здзейсніць я хацеў уздым.
Побач з воблакам самім
праплываць, яго пакратаць –
нібы ў моры незямным,
мякка гойдацца і плаваць.
А як шар захоча падаць,
аблачыну падчапіць,
перасесці і не плакаць,
а далей над светам плыць.
Так, хацеў калісь – у хмары...
А пасля – граць на гітары...

**5**

А пасля – граць на гітары.
Доўга марыў – цэлы год.
Ні цымбалы, ні фанфары,
ані скрыпка, ні фагот
так не вабілі. І кот –
Барык наш (ці мне здалося?)
апускаў паныла хвост,
як матулі я гундосіў.
Гэту мару так узносіў,
аж пачаў яе ўжо сніць,
і матуля дзесь пад восень
пагадзілася купіць.
Граць я пад уласны спеў
навучыцца ўсё хацеў...

**6**

Навучыцца ўсё хацеў –
і на цацачнай так трэнькаў,
што наш Бар ажно шалеў
і хаваўся ўміг за сценкай.
А пасля трынькоты нейкай
я на цэлых восем дзён
для яго ўжо стаў няўмекам,
і ў мой бок не мяўкаў ён.
Не выходзіў на балкон
позіркам правесці ў школу...
Вымусіў забыць Барон
мару гэтую – назолу.
А пасля яшчэ я марыў
нат пайсці і ў сталявары...

**7**

Нат пайсці і ў сталявары...
Можа, можа б, і пайшоў,
ды нашу вось акуляры –
зрок пакуль што не гатоў.
Думаеце – пустаслоў?
Ну дык я ж не вінаваты,
што мне мала шчэ гадоў,
што ў жаданнях я – заўзяты.
Я і сам ужо не рады,
што прафесій многа так.
Паспрабуй вось – дай тут рады,
разбярыся – што і як!
Так, і праўда, асмялеў –
перамарыць нейк паспеў...



*Малюнкі Дар'і ЧУПРЫС.*



## Ліст з Расіі

Покуль ліст дайшоў да дому,
Дом дарэшты разбамбілі,
Покуль ліст назад вярнуўся
Дык і фрыц ужо ў магіле.

*№ 127–128,*
*красавік 1944 г.*

Мал. Г. Валька.








## Васіль Цёркін вяртаецца...

***У 2009 годзе аднаму з самых жыццелюбівых літаратурных персанажаў — Васілю Цёркіну — споўнілася 70 гадоў. З нагоды юбілею ў Санкт-Пецярбургу выйшла кніга «Вася Теркин? Кто такой?», у якой супрацоўнікі газеты «На страже Родины» Ленінградскай ваеннай акругі даследавалі гісторыю ўзнікнення папулярнага народнага героя. Як высветлілася, да таго, як з'явіцца ў паэме Твардоўскага, Васіль быў героем апавяданняў, мультфільмаў і нават коміксаў.***

***Рэдакцыя вярнула чытачу Цёркіна, ён пачаў рэгулярна выступаць перад салдатамі і сяржантамі N-скай Ленінградскай ваеннай акругі, а рэпартажы з сустрэч вёў масціты журналіст, пісьменнік Мікалай Махнёў. Мікалай Васільевіч працуе ў газеце з 1987 года, лёгкі на пад'ём, шчыры і задзірысты. Як, прынамсі, і вершы з-пад яго пяра.***



*Малюнак Орэста ВЯРЭЙСКАГА. Цёркін, 1943-46 гг.*

## Памяць подзвігу — ў вяках

Майскі дзень... Год сорак пяты
Стаў нагодай для былін:
Ў ногі нашаму салдату
Падаў зрынуты Берлін.

...Успамін, як сон, прыходзіць,
Дакучае зноў і зноў,
Хаця сем дзесяцігоддзяў
Праляцела з тых часоў.

Не хавае дзед трывогі,
Памяць моцная ў гадах:
«Дзеля нашай Перамогі
Кроў лілася на палях...

Аб'яднаныя франтамі,
Мы па духу ўсе былі
І сябрамі, і братамі,
Як сыны адной зямлі...

Раз'яднаць вайна хацела,
Толькі так і не змагла:
На прывалах кашу елі
Ўсе з агульнага катла.

Нам у жудасным змаганні
Давялося выжываць,
Але ўмелі жартам раны,
Боль і горыч прыкрываць...

Выйдзем мы святую дату
Урачыста адзначаць,
Ў гонар мужнага салдата
Будзе музыка гучаць.

Праўнукі і ўнукі змогуць
Урачысты даць салют,
Я ж на свята Перамогі
Келіх да краёў налью».

**Маналог старой гвардыі байца Васіля Цёркіна запісаў слова ў слова Мікалай МАХНЁЎ.**

***Пераклад з рускай Веранікі МАНДЗІК.***

*Друкуецца са скарачэннямі.*

---

## ПРЫКАЗКІ

**Няма чым воўку спаражняцца, дык ён лыкам.**

(Пра звыштатальную мабілізацыю).

**Язык доўгі, ды пяты кароткія.**

(Пра Гебельса).

**Зарабіў, як Антанеску на вайне.**

**Паспытала свіння палена, памятае, дзе паела.**

(Пра Гітлера і Ўсходні фронт).

**Чорт чорту спавядаўся: адзін мігнуў, другі дагадаўся.**

(Пра Гітлера і Франко).

**Быць бычку на вяровачцы!**

(Пра Гітлера і вісельню).

**Маўчы, бо будуць таўчы.**

(Пра гітлераўскі рэжым у Германіі).

**Няпраўдай свет пройдзеш, ды назад не вернешся.**

(Пра фашысцкіх разбойнікаў).

**Вочы па яблыку, а галава з гарэх.**

(Пра прагнасць і дурасць нямецкіх захопнікаў).

*№ 137, снежань 1944 г.*



# Франтавы «карцёжнік» Іван Харкевіч

*Журналісцкі лёс часта дорыць цікавыя сустрэчы, знаёмствы. Вось і сярод маіх суразмоўцаў шмат гадоў назад – больш за дзесяць – быў франтавы карыкатурыст* ***Іван ХАРКЕВІЧ****. Ён памёр у 2007 годзе, а тады, у 2004-м, калі адбыўся наш дыялог, жыў у Санкт-Пецярбургу. Творца, відаць, назаўсёды застанецца ў гісторыі як майстар, што валодаў адмысловай зброяй – зброяй мастацкай сатырычнай прапаганды. У час Вялікай Айчыннай вайны Іван Харкевіч нават карты прыдумаў адмысловыя. Пра іх і іншыя сатырычныя вынаходніцтвы санкт-пецярбургскага мастака і гаварылі мы ў тым даўнім інтэрв'ю. Некаторыя фрагменты яго ўзнаўляю сёння да 70-годдзя Вялікай Перамогі.*

**— І што ж гэта за карты? — запытаўся я тады ў Івана Іванавіча.**

– Я служыў і працаваў у газеце Паўночна-Заходняга фронту «Сябра салдата», якая выдавался на нямецкай мове. Так, на нямецкай, бо яе раскідвалі па лініі фронту, імкнуліся рознымі шляхамі даставіць у варожыя акопы. У нас было шмат перабежчыкаў, якія, зразумела, добра ведалі жаргон гітлераўскіх салдат і афіцэраў. Вось гэта і дапамагло мне скласці тэксты, якія я размясціў на «рубашках» карт. А каралямі намаляваў Гітлера, Гімлера, Гебельса, Герынга. Фюрар атрымаўся гэткім пікавым фраерам, які да 1943 года ўжо значна збавіў ранейшую пыху. Дамы на картах – нямецкія сатэліты – Венгрыя, Фінляндыя, Італія.

**— І як нямецкія салдаты паставіліся да вашых карт? Ці ведаеце вы пра іх рэакцыю?**

– Карты задумваліся як пропуск пры пераходзе лініі фронту перабежчыкамі, якія наважыліся здацца ў палон. Але тады карты не надрукавалі. Хутка пачалося наступленне... І, пэўна, дадзеная ідэя не была ўхвалена недзе «наверсе». А без гэтага, зразумела, ніякі, нават самы творчы, праект не мог бы адбыцца.




# ШТО ЯНЫ САБЕ ДУМАЮЦЬ...

## (Берлінская сцэнка)

— Гутэн таг, гер Пільцэ.

— Гутэн таг, гер Крохер. З новым годам, з новым шчасцем.

— Дзякую. Няхай маё шчасце нашаму фюрару.

— То ён-бы і рад быў.

— Да чаго яны нас давялі! Што яны сабе думаюць?

— Я вам скажу, гер Крохер, што яны думаюць. Герынг думае аб тым, чым яму ў сорак пятым годзе свой трыбух напхаць. Трыбух-жа ў яго, дзякаваць богу, як сяннік, пашыты ў чатыры полкі. Калі саломай напіхаць, дык і то трэба воз. Але-ж пан міністр да саломы не прывык. Ён наліваў свой бурдзюк французскімі вінамі, напіхаў булкамі з украінскай пшаніцы ды беларускімі кілбасамі. А цяпер-жа гэта ўсё мінулася: немцы вымушаны жывіцца аднымі сваімі эрзацамі. То мы з вамі, гер Крохер, перацягнулі свае жываты папружкамі і церпім. А ўтаймаваць сяннік пана міністра не так то лёгка.

Гебельс думае аб тым, якую работу даць свайму языку. Ён прывык у яго матляцца ля вушэй і балбатаць толькі аб перамогах. Але на сорак пяты ніякіх перамог не прадбачыцца нават у стаўцы Гітлера, дык яму гэты язык хоць чорт ведае куды заткні.

Гімлер заклапочан тым, дзе яму ўзяць столькі вісельняў, каб на іх павесіць усіх «шаптуноў».





Праз шмат дзесяцігоддзяў карты невялікім накладам усё ж такі выдалі.

Антыфашысцкая тэма хвалюе сумленных людзей і зараз. А тады... Тады Паўночна-Заходні фронт стаў 2-м Беларускім. Разам з рэдакцыяй газеты «Сябра салдата» Іван Харкевіч пазнаёміўся з Беларуссю часін трагедыйных, драматычных... І яго аловак, яго фарбы яшчэ болей рашуча джалілі фрыцаў, гітлераўскіх захопнікаў. «Падчас дыялогу з нямецкімі салдатамі я бачыў перад сабою спаленыя беларускія паселішчы. Гневу хапала. Але было і разуменне, што, можа быць, угледзеўшы мае малюнкі, хтосьці з варожых шэрагаў яшчэ здолее выйсці з дзікунскага ачмурэння», — гаварыў Іван Харкевіч у размове са мною. І перабежчыкі сапраўды былі. Яны пераходзілі лінію фронту, трымаючы ў руках газету «Сябра салдата».

Пачаўшы пасля вайны працаваць у галіне ілюстравання дзіцячай літаратуры, мастак не закінуў і карыкатуру, сатырычныя жанры ў выяўленчым мастацтве. У 1956 годзе ён прыйшоў на працу ў славутае аб'яднанне «Баявы аловак», якое было заснавана яшчэ ў 1939 годзе. Час вайны прайшоў, але не мінулася баявітасць сатырыкаў, таму і назву захавалі. Палітычнай сатырай Іван Іванавіч ужо не займаўся. Затое не меней рашуча «ваяваў» з заганамі побыту, шматаблічнага грамадскага жыцця, з паўсядзённымі бядотамі-згрызотамі. Імкнуўся высмеяць хабарнікаў, людзей несумленных. Маляваў шаржы, крытыкаваў бюракратаў, жулікаў, дробных злодзеяў, несуноў. «Трэба было «буйных» злодзеяў і хапуг джаліць, муштраваць, а не толькі дробных, мо тады і не было б істотных заганаў, таго жорсткага пераломy, які прымусіў грамадства, розныя сацыяльныя групы насельніцтва аказацца ў няпростых умовах», — сказаў у нашай размове франтавы карыкатурыст Іван Харкевіч.

...У 2008 годзе франтавыя сатырычныя малюнкі Івана Харкевіча выйшлі асобным альбомам «Зброя контрпрапаганды». Шкада, што мастак ужо не здолеў пабачыць гэтае выданне, пакінуўшы жыццё зямное. Увага да творчай спадчыны франтавога карыкатурыста з Санкт-Пецярбурга, заслужанага дзеяча мастацтваў Расійскай Федэрацыі нагадала і пра цікавую ваенную спадчыну беларускіх мастакоў-карыкатурыстаў. Часам «Вожык» узнаўляе тыя яркія «калючкі», зробленыя творцамі-патрыётамі, сапраўднымі змагарамі за свабоду нашай Айчыны, друкуючы ў часопісе рэпрадукцыі малюнкаў ваеннага часу. А мо ўсё ж наспела пара і асобным альбомам выдаць найболей яркія карыкатуры і шаржы..?

**Павел АЛЬСОВЫ.**

***Ілюстрацыі картаў Івана ХАРКЕВІЧА.***



Я ўпэўнен, што наша дрэваапрацоўчая прамысловасць з яго заданнем не справіцца і мы з вамі, гер Крохер, яшчэ пажывём.

Гітлер... Цяжка сказаць, што думае гэты вар'ят. Адно ясна, што аб заваяванні свету ў сорак пятым годзе ён не думае. Вы зычылі яму сваё шчасце. А я вам скажу, гер Крохер: хоць мы з вамі галодныя, няшчасныя старыя фрыцы, але я не памяняюся сваім лёсам з нашым фюрарам. Каму прыдзе ў галаву мяняцца лёсам з шалёным сабакам, якога заўтра зловяць і затаўкуць. Аўхвідэрзэен, гер Крохер. Пойдзем сустракаць новы год.

— Да пабачэння, гер Пільцэ. Дзякую за растлумачэнне. У мяне цяпер увесь сорак пяты год як на далоні. Весела, няма чаго сказаць.

**Кандрат КРАПІВА.**

№ 138, студзень 1945 г.

Мал. А. Волкава.



У гаспадарцы кожны трафей спатрэбіцца.

№ 142, красавік 1945 г.




## У народзе кажуць…

☺ Апенькі з'явіліся — лета скончылася.

☺ Набірайся чужога розуму, ды свайго не губляй.

☺ Добра таго пужаць, хто баіцца.

☺ Чалавек мае два вухі, каб больш слухаў, і адзін язык, каб менш гаварыў.

**Пераклаў з украінскай Сымон КАПЯЛЮШ,**
*г. Рагачоў.*

Усмешкі

## Хтосьці ж павінен…

Аднойчы заяц і чарапаха высачылі тыгра.

— Слухай, касы! — кажа чарапаха сябру. — Табе выпаў вялікі гонар перамагчы гэтага драпежніка.

— А як жа ты? — пашкадаваў яе заяц.

— Што зробіш, — уздыхнула чарапаха. — Хтосьці ж павінен пасля распавесці пра наш подзвіг!

## Уважлівая прычына

Муж скардзіцца жонцы:

— Ну, сама падумай, калі мне ёсць час дапамагаць табе па гаспадарцы? То вяселле, то радзіны, то яшчэ якая нагода падвернецца, каб зазірнуць у госці ды кілішак-другі выпіць...

— А ты не ідзі, — раіць яму жонка.

— Ага! — злуецца той. — Раз не пойдзеш, два, а пасля і не паклічуць!

**Даслаў Пятрусь КАПЧЫК,**
*г. Ізяслаў (Украіна).*



«Вожык» — грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс
№ 5 (1520), 2015 год.
*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*

Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».

Галоўны рэдактар
Юлія Францаўна ЗАРЭЦКАЯ.

Рэдакцыйная калегія: Анатоль АКУШЭВІЧ, Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ГІРГЕЛЬ, Тамара ДАНІЛЮК, Валянціна ДУБРОВА, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Уладзімір МАТУСЕВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ.

Рэдакцыя: Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел)*, Ганна КІСЛУШЧАНКА, Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў)*, Вераніка МАНДЗІК *(аддзел літаратуры)*.

Адрас рэдакцыі
Юрыдычны адрас: 220013, г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 а.
E-mail: info@zvyazda.minsk.by.
Паштовы адрас: 220005, г. Мінск, праспект Незалежнасці, 39.
E-mail: a-vojik@yandex.ru
Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзелаў фельетонаў і пісьмаў, літаратуры, мастацкага — 284-84-52, бухгалтэрыі — 287-18-81, факс — 284-84-61.

Падпісныя індэксы:
74844 — індывідуальны, 01380 — індывідуальны льготны,
748442 — ведамасны, 01381 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 520 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Камп'ютарная вёрстка: Святлана ТАРГОНСКАЯ
Стыльрэдактар: Марыя ГІЛЕВІЧ

Падпісана ў друк 07.05.2015. Фармат 60x84 1/8. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,45. Тыраж 1480 экз. Заказ .
Кошт нумара ў розніцу 16 800 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014, вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск.



Малюнак А. Волкава.




**СТАРЫ ГОД — Прымі і дабі.**
**НОВЫ ГОД — Будзе зроблена.**

*№ 138, студзень 1945 г.*

Мал. Д. Красільнікава.



Савецкі ключ да берлінскай брамы.

*№ 142, красавік 1945 г.*

## ПЕРАМОГА

*Гэта будзе вось так: адгрымяць мінамёты,*
*упадзе, зазвінеўшы, далоў аўтамат,*
*рукі ўгору падымуць варожыя доты*
*і гарматы праробяць апошні адкат.*

*Мы яшчэ раз пяройдзем ад межаў да межаў*
*ненавісны, нарэшце пакораны, свет,*
*і асколкі разбітае зграі драпежнай*
*будуць моўчкі глядзець пераможцам услед.*



# Убачыць за дрэвамі лес…



Малюнак Аляксандра ШМІДТА.






Малюнкі Міколы ПІРГЕЛЯ.



*Будзе сплачана ўсё поўнай мераю*
*помсты:*
*першы ранак, парваны штыкамі*
*ў шматкі,*
*першы спалены горад і першыя вёрсты,*
*што прайшлі у чужацкай няволі бацькі.*

*Мы яго уяўляем, той дзень перамогі, —*
*камандзіры палкоў прачытаюць загад*
*і пакажа нам сэрца, як компас, дарогі,*
*дзе расце ў сорак першым*
*пакінуты сад.*

*Ён зусім недалёка. Што міг, то яскравей*
*нечуванай зарой разгараецца ён,*
*калі ў шэрых шынелях салдацкая слава*
*падмінае пад ногі нямецкі гудрон.*

*Ад вайсковых трафеяў забіты кюветы.*
*Насцярожана пальцы ляжаць*
*на курках, —*
*кожны стрэл скарачае адлегласць*
*да мэты,*
*Блізка дзень.*
*Дык няхай-жа не хібіць рука!*

*Максім ЛУЖАНІН*

*№ 140, сакавік 1945 г.*



# ДУМКІ ЎГОЛАС

**Калі б не было дурняў, навошта б тады існавалі на свеце разумнікі?**

Чалавеку ўласціва памыляцца. Нават у гэтым сцвярджэнні.

**Калі ты стаіш на высокай гары, то ўзвышаешся. Але толькі таму, што не бачыш іншых, больш высокіх гор.**

Бывае шавец без ботаў. Але не бывае галоднага повара.

**Калі вы зразумелі закон, значыць, яго неўзабаве памяняюць.**

Халасты стрэл – як вяселле без шлюбнай ночы.

**Дунька ШЫП,**
*г. Мінск.*



Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.



Малюнак Аляксандра ШМІДТА.




Чым небяспечныя начныя спатканні ў гумне?

Чаму Сідар адлупцаваў казу?

Што заканчваецца хутчэй, чым адпачынак?

Ці ёсць зялёныя чалавечкі?

Якая карова дае па вядры віна?

***І многае-многае іншае! Да сустрэчы!***

## Нашы індэксы:

**ІНДЫВІДУАЛЬНЫ — 74844**,

**індывідуальны льготны** (для жыхароў сельскай мясцовасці: райцэнтры і населеныя пункты раёнаў) — **01380;**

**ВЕДАМАСНЫ — 748442,**

**ведамасны льготны** (для ўстаноў Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі) — **01381.**

**Падалося, што часопіс «Вожык» сам прыйшоў!**



**ПАДПІСКА НА II ПАЎГОДДЗЕ 2015 ГОДА**

**Падпіска на 1 месяц каштуе:**

індэкс 74844, цана 29100 рублёў,
індэкс 01380, цана 23200 рублёў,
індэкс 748442, цана 84600 рублёў,
індэкс 01381, цана 66700 рублёў.

**Падпісацца можна ў любым аддзяленні сувязі РУП «Белпошта», у кіёсках РУП «Белсаюздрук». А яшчэ — па інтэрнэце (з дапамогай пластыкавых электронных картак, электронных грошай) ці праз аўтаматызаваную сістэму Адзінай разліковa-інфармацыйнай прасторы (АРІП).**

